## Апошняе інтэрв'ю Паўла Пруднікава

Гады напамінаюць пра сябе. Улетку Павел Пруднікаў аслеп, а яшчэ раней стаў кепска чуць. Але калі я ўвайшоў у ягоны пакой, з парога пачуў бадзёрае:

— Маракоў?! Новы верш магу прачытаць!

*— Сёння 24 чэрвеня 1999 года,* — сказаў я ў мікрафон для праверкі запісу і гучна дадаў (Павел Іванавіч кепска чуў): — *Павел Іванавіч, добры дзень. Як новы верш называецца?*

**Павел Пруднікаў**: "Незабыўныя". Верш дакументальны. Пра тое, як у адным з сібірскіх канцлагераў, а менавіта на ўчастку БАМа Тайшэт-Гара, вязні сустракалі першы дзень вайны — 22 чэрвеня 1941 года. Я сядзеў галодны і знясілены ў кандзеі — штрафным ізалятары. Нас, палітычных, зганялі ў агульны барак (дагэтуль мы жылі разам з крымінальнікамі). Відаць, рыхтавалі да расстрэлу… Па ўказанні "зверху" да знішчэння рыхтавалі ўвесь "палітычны" барак.

*— Павел Іванавіч, вы гэты верш каму-небудзь чыталі? Тэма, трэба сказаць, яшчэ не кранутая ў нашай літаратуры: сталінскі канцлагер у першы дзень вайны…*

**П.Пруднікаў**: Нікому яшчэ не чытаў. Верш адно ў галаве. У мяне цяпер бяда. Раней унуку надыктоўваў, а ён запісваў. А цяпер няма каму: унук у піянерскім лагеры. Нічога не зробіш: сляпы, глухі… Канцлагер праз палавіну стагоддзя зноў напомніў пра сябе. Вось слухайце…

Зноў згадаў я сёння сорак першы
Ў векавой тайшэцкай тайзе.
Мне тады было не да вершаў, —
Ледзь жывы застаўся балазе.

Я ляжаў галодны у кандзеі
У чаканні нейкага канца,
Бо рады сяброў маіх радзелі
Па ўказанні грознага Айца…

Павел Іванавіч чытаў і блытаўся, зноў пачынаў чытаць. Верш быў доўгі, занадта празаічна-апавядальны. Запомніліся радкі, што было тады загадана "прыпыніць будоўлю века — БАМ". Я не ведаў гэтага. Перапытаў:

*— Павел Іванавіч, вы сказалі, што гэтыя падзеі адбываліся ў Тайшэтлагу? Вядомае месца… Яўхім Кіпель там таксама "гасцяваў".*

*Цудам не загінуў… А з беларускіх пісьменнікаў у гэтым лагеры вы нікога не сустракалі?*

**П.Пруднікаў:** З нашых — нікога. Пазней сустрэў Андрэя Александровіча.

*— Нашым чытачам збольшага вядома ваша біяграфія, але хацелася б сёе-тое ведаць больш падрабязна… Нарадзіліся вы ў 1911 годзе…*



Павел Пруднікаў.

**П.Пруднікаў:** 14 ліпеня (паводле старага стылю) у вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям’і. Нас было дзевяць дзяцей. Малым працаваў на сельскай гаспадарцы. Бацька, акрамя таго, гаршкі рабіў. І я «гаршэчнікам» стаў, памагаў яму. У першы клас пайшоў у 1917-м у 6 гадоў. У нашу вясковую Старадзедзінскую школу. У ёй было толькі тры класы. Адзін месяц пахадзіў, і пачалася лютаўская рэвалюцыя. Школу зачынілі, потым разбурылі. Тады ніхто не ведаў, хто што рабіў, хто для чаго бурыў Была рэвалюцыя. Са злосці ўсё ламалі… Я помню, як адзін п'яны вокны ў нашай школе пабіў. Дык стараста забіў яго за тыя вокны…

*— Павел Іванавіч, праз вашу вёску хто з ваюючых бакоў праходзіў? Каго вы бачылі? Хто з кім ваяваў? Белыя з бальшавікамі, бальшавікі з палякамі, немцамі?*

**П.Пруднікаў:** Там не дапяць было, хто з кім ваюе. Сёння адны прыходзяць, заўтра — другія. Ніхто не ведаў, што рабілася. Не ведалі, што будзе не толькі заўтра — праз гадзіну…

Дык і вучыліся тады толькі энтузіясты. Не было ні школ, ні настаўнікаў. Страшны быў час. Усё з 1917-га і пачалося. Тады я так і не змог вучыцца. Толькі недзе ў пачатку 1920-х гадоў паступіў у другі клас суседняй школы ў Новадзедзіне. Туды я гады чатыры хадзіў. У 1925-м у адной з хат у нашым Дзедзіне адкрылі пачатковую школу. Гэтакім чынам у 1926-м і скончыў яе.

Потым паступіў у чацвёрты клас Мілаславіцкай сямігодкі. Там працаваў настаўнікам паэт Янка Бобрык.

Сем пісьменнікаў выйшла з Мілаславіцкай сямігодкі: Павел Кавалёў, Іван Новікаў, мой стрыечны брат Алесь Пруднікаў, Клім Грыневіч…

У 1926 годзе я арганізаваў у школе літаратурны гурток. Чатыры гады, пакуль быў там, кіраваў ім…

У васямнаццаць гадоў кінуў школу і паехаў у свет… А літгурток потым разваліўся…

*— Які клас кінулі?*

**П.Пруднікаў:** Сёмы. Паехаў у Данбас. Працаваў на Краматорскім металургічным заводзе, выводзіў доменныя печы.

*— Па грошы паехалі?*

**П.Пруднікаў:** Так. Паехаў на заробкі. Спачатку працаваў на заводзе, а потым у шахтах Горлаўкі і Грышына… Але доўга там не прабыў. Улетку таго самага года вярнуўся.

*— Зарабілі крыху?*

**П.Пруднікаў:** Дзе там! Тады, акурат у 1930-м, пачыналася калектывізацыя, індустрыялізацыя. Як заяц бегаў. Працаваў нават па чужым дакуменце. Не было даведкі ад сельскага савета, што адпускаюць. Бяда цэлая…

У канцы лета 1930 года прыехаў у Мінск. Працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы — Магілёў — Крычаў — Рослаў. Калі чыгунку скончылі весці, паехаў у Магілёў. Працаваў на будаўніцтве шоўкавай фабрыкі — цяпер завод штучнага валакна імя Куйбышава. Пасля заканчэння будаўніцтва вярнуўся ў Мінск. Тут жыў мой стрыечны брат Алесь Пруднікаў. Да яго і прыехаў. Былі мы з ім як блізнякі… У вайну Алесь загінуў…

Калі я прыехаў да яго, ён працаваў на будаўніцтве. Я на будоўлю не ўладкаваўся, пайшоў у грузчыкі (у 1932 г. выйдзе першая кніжка Паўла Пруднікава (у суаўтарстве з Я.Субачам[1]) «Песні грузчыкаў». — ***Л. М***.). У лістападзе 1930 года перайшоў на кніжную базу.

*— Як трапілі на кніжную базу?*

**П.Пруднікаў:** Адзін хлопец дапамог. Я і Алеся туды перацягнуў.

*— А што за хлопец?*

**П.Пруднікаў.** Быў такі Левін. Таксама пачатковец. Псеўданім — Стручок. Я не ведаю, дзе ён потым дзеўся…

*— Гэта цікавіла і мяне, бо С.Левін вучыўся разам з маім дзядзькам паэтам Валерыем Мараковым, з іншымі маладымі, але ўжо вядомымі пісьменнікамі ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце: С.Шушкевічам, З.Біралам, Ю.Лявонным, З.Піваваравым, П.Хатулёвым… Недаўна стала вядома, што Саламона Левіна расстралялі 29 кастрычніка 1937 года разам з 20 іншымі беларускімі і яўрэйскімі літаратарам. Былі сярод іх і яго аднакурснікі. У той час ён быў адным з самых актыўных літаратурных крытыкаў.*

**П.Пруднікаў:** Не верыцца… Малады такі быў хлопец, маладняковец. Ціхі, сціплы…

А пасля кніжнай базы уладкаваўся ў рэдакцыю газеты "Беларуская вёска". Пазней — на радыё. Працаваў рэпарцёрам. З радыё перайшоў у газету "Савецкая Беларусь". Потым у БЕЛТА, у якім працаваў да 1932 года, пакуль не паступіў у інстытут. Стыпендыю не атрымліваў, бо працягваў працаваць… У канцы 1932-га не знайшоў агульнай мовы з выкладчыкам В.Барысенкам[2] і кінуў інстытут. Паехаў у Ленінград. Паступіў у Інстытут замежных моў. Правучыўся адзін год, адчуў, што не маё, і перавёўся ў падінстытут імя Бубнова. Скончыў яго 1 ліпеня 1937 года. А ў ноч з 10 на 11 ліпеня мяне арыштавалі на кватэры, у якой я жыў у Ленінградзе. Я ўжо абзавёўся быў сям'ёй. Жыў на Ліцейным праспекце, 13. Пасля майго арышту нарадзіўся хлопчык. Праз дзесяцігоддзі ён мяне знайшоў, прыязджаў сюды, у Мінск. Яму ўжо за 60. Цяжкае ў яго было жыццё… Але гэта ўжо другая гісторыя…

Сядзеў у знакамітых Крастах. Там прабыў прыкладна месяцы чатыры. У снежні этапавалі ў Сібір, у Южлаг. Асудзілі без суда і следства. Тады ніякіх судоў не было. Што хацелі, тое і рабілі. Ці магчыма велічаць судом «тройкі»? Вось адна такая тройка і вырашыла: восем гадоў пазбаўлення волі. У рашэнні напісана было так: за варожыя адносіны да савецкай улады і за ідэалагічную «близость» з беларускімі нацыянал-дэмакратамі. Усё было выдумана… Да мяне Кубіца[1] арыштавалі, потым выпусцілі… Пасля ўзялі Сапуна[3]— быў такі паэт. Выпусцілі і яго. Жыла ў гэты час у Ленінградзе і паэтка Наталля Вішнеўская. Яна замуж выйшла за майго былога настаўніка

[1] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

Янку Бобрыка ў 1937 ці ў 1938 годзе, калі Алеся Звонака, другога яе мужа (першым быў А.Дудар), пасадзілі. Я.Бобрык вучыўся ў Акадэміі мастацтвазнаўства ў аспірантуры…

З Крастоў мяне этапавалі ў Южлаг, які знаходзіўся ва Улан-Удэ ў Забайкаллі (тады Бурацкая АССР). Дарогу да Манголіі будаваў. Увесну 1941 года будоўлю скончылі і нас перагналі ў Тайшэтлаг, што на БАМе. Як новую будоўлю адкрываюць, так і лагер там адразу з'яўляецца. Калі дарогу рабілі, на ўсім яе працягу ў 250 км было некалькі зон. Скончым адзін участак дарогі — нас пераганяюць у іншую зону, і г. д. Зона была абнесена калючым дротам. Там, дзе працавалі, калючага дроту не было — там былі стралкі і сабакі. А на ноч у зону гналі. Спалі ў бараку. Там магло быць і 100 і 300 чалавек. Барак быў падобны на склад для агародніны. Толькі па баках у ім былі двух- і трохпавярховыя нары. На іх і спалі. Зацемна выганялі на працу, як сцямнее, прыганялі. Неяк, калі вяртаўся, так абяссілеў, што страціў прытомнасць і ўпаў. Напаўмёртвага падабралі і прывезлі ў зону. Потым у бальніцу паклалі. Пасля групу (у 1938-м) інвалідную далі. Гэта мяне і выратавала. А так бы загінуў. Знялі з цяжкай працы — капаць мёрзлую зямлю, і далі лёгкую — падмятаць ці пераносіць што-небудзь няцяжкае…

Увосень 1941 года я апынуўся ў Краснаярску, потым у Омску. З Омска праз Енісейск трапіў у Дудзінку, пасля ў Нарыльск.

У Дудзінцы сустрэў паэта Андрэя Александровіча. Ён працаваў грузчыкам у порце. Хоць адлегласць паміж Дудзінкай і Нарыльскам была больш за 100 кіламетраў, кіравала тут адно «ўпраўленне». Дудзінка — гэта марскі і рачны порт, усе грузы ў Нарыльск праз Дудзінку ішлі…

Як сустрэў Александровіча? Калі сталі рабіць пераклічку, Андрэй пачуў маё прозвішча і падышоў. Ён сказаў: “Ой, даражэнькі, ці пазнаеш мяне?» Я гавару: “Штосьці не прыпомню…» Тады ён прадставіўся: «Александровіч». І я ўспомніў… Гэта быў вядомы ў Беларусі паэт. Акрамя таго, член ЦК партыі, член ЦВК, дэпутат Вярхоўнага Савета… Дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў… Трое сутак мы бачыліся. Ён да мяне прыходзіў пагаварыць, паўспамінаць. Потым яго кудысьці адправілі. Перавезлі ў Нарыльск і мяне. Тады не гаварылі, куды адпраўляюць. Пасля аказалася, што мы былі ў адным лагеры… А сустрэліся толькі ў Мінску ў пачатку 1960-х, праз дваццаць гадоў. Я даведаўся, што ён тут, і прыехаў да яго. Мы гаварылі пра арышты. Ён усё пытаў сябе: «За што пасадзілі, за што?»

У 1930-я гады А.Александровіч дапамог мне, маладому паэту, падрыхтаваць і выдаць першую кнігу. Я тады ў друку выступаў пад псеўданімам Паўлюк Буравей. Гэта было звязана з тым, што яшчэ адзін Праднікаў быў — мой стрыечны брат Алесь. Мы вырашылі: трэба некаму з нас псеўданім узяць. Бачу, Алесь не хоча. Кажу: я вазьму… А пасля вайны, калі яго ўжо не стала, я падумаў: навошта мне цяпер псеўданім? І стаў пад сваім прозвішчам жыць і працаваць…

У Нарыльску быў да канца тэрміну, да 1945-га. Спачатку, у 1941 годзе, трапіў у вагоннае дэпо, дзе вывучыўся такарнай справе. Тачыў шыйкі колаў. Чатыры гады тачыў. Работа нялёгкая, але ў цяпле. Норму выпрацоўваў і пайкай быў забяспечаны. Калі вызваліўся, яшчэ паўгода не адпускалі. Папрасіў хлопцаў з чыгункі дапамагчы. Яны пагаварылі з начальнікам, і мяне «аддалі» дырэктару тэхнікума. Так і стаў загадчыкам бібліятэкі. Там год прабыў і вырваўся на Вялікую зямлю. З вялікай цяжкасцю, але вырваўся. Не пускалі: калі ўсіх выпускаць — нікога ў Нарыльску не застанецца…

*— Вядома, што ў канцлагерах шмат каго з недабітых нацдэмаў, беларускіх пісьменнікаў расстрэльвалі. Так загінулі С.Астрэйка, А.Вазіла, М.Гарэцкі, М.Гваздоў, Л.Калюга, А.Смоліч… Пры вас каго-небудзь асуджалі да расстрэлу?*

**П.Праднікаў:** Асуджалі. Але, як ужо гаварыў, пісьменнікаў у нашым лагпункце не было. Расстрэльвалі ў асноўным тых, хто спрабаваў уцячы. Я бываў на такіх судах. Паказальныя суды рабілі. Проста ў лагеры. Судзілі і амаль заўсёды прыгаворвалі да расстрэлу.

Ды і куды ўцякаць? Мне колькі раз прапаноўвалі. А куды бегчы? Уся Сібір у лагерах, і кругом ахоўнікі. Усіх лавілі. Хаця, можа хто-небудзь і ўцёк, не ведаю. Помню, неяк аднаму казаку з-пад Растова дапамагаў уцякаць. (Гэта яшчэ ў 1937-м было.) Спачатку мы хацелі ўцякаць разам, утрох. Ды пакуль збіраліся, адзін не вытрымаў і ўцёк сам. Не ведаю, вярнулі яго назад у лагер ці не. Магчыма, і ўцёк. Ён працаваў у лагеры бухгалтарам. Адзенне ў яго было добрае, і грошы вадзіліся…

Быў яшчэ адзін выпадак. Я працаваў брыгадзірам ва Улан-Удэ. Неяк прыводзяць да мяне новага чалавека (гэта ўлетку 1941 года было). Пабыў два дні гэты чалавек у маёй брыгадзе і гаворыць: «Давай уцякаць». Я кажу: не, Іван, я не пайду, але што трэба ад мяне — зраблю. Ідзе вайна. Калі зловяць — мяне, брыгадзіра, расстраляюць дакладна.

Ноччу я памог яму праз зону перабрацца. Даў свой бляшаны чамаданчык. І ён пайшоў… Але яго злавілі. Ён расказваў, як цяжка

ішоў. Праз горы і лясы. Трое сутак. Начаваць прывязваўся на дрэве — каб паспаць крыху, бо на зямлі маглі звяры з’есці. Ён і горы перайшоў. Узялі яго ўжо ў цягніку. Там вока набіта ў аператыўнікаў. Яны бачаць, як рэагуе чалавек, гаворыць. Двое падышлі да яго, пытаюць: «Дакументы!» Ён туды-сюды, кажа: «Няма». І арыштавалі…

Потым, калі мяне ўжо з Тайшэта прыгналі ў Краснаярск, чую — крычыць нехта: «Пашка!». Гляджу, бяжыць той Іван, жывы.

Я не ішоў на ўцёкі. Ведаў, што не выйдзе. Ведаў: як зловяць — палову жыцця адымуць ці заб'юць да смерці. А калі нейкім цудам выжывеш, дык асудзяць — да расстрэлу…

У 1946 годзе, пасля вызвалення, апынуўся ў Смаленску. У Беларусь не пускалі: палітычна небяспечны…

Потым была Смаленская вобласць. Блізка да Радзімы. Мая вёска — на мяжы. Я схаваў свой пашпарт, сказаў, што згубіў. І тады мне далі іншы пашпарт — гадавы. Там ужо шыфруа не было, і я мог уладкоўвацца працаваць настаўнікам у школу. А з тым пашпартам ні на якую працу не бралі.

У 1947-м ажаніўся з Ганнай Паўлаўнай, яна таксама настаўніцай працавала. З таго часу мы разам і жывём. Дзве дачкі нарадзіліся. Вольга ў 1948 годзе і Ніна ў 1951-м. Адна нарадзілася, калі я яшчэ ў Вроцлаве працаваў. А другая — недалёка ад Вроцлава, калі працаваў завучам у вялікай Остэрскай школе. У 1952 годзе пераехаў у Беларусь: Полацкая вобласць, Браслаўскі раён. У Мінску не давалі працаваць. Пасылалі яшчэ ў Оршу выкладчыкам інстытута, але я не паехаў. Маўляў, мне здароўе не дазваляе. А сам сабе думаў: з інстытута ўсё роўна прагоняць…

У 1955 годзе падаў прашэнне аб рэабілітацыі, бо зноў не давалі нідзе работы. Была створана спецыяльная камісія ЦК па маёй справе. Дагэтуль мяне звальнялі ўсюды, прыдумвалі ўсялякае, каб звольніць. Справа трапіла ў рукі начальніка архіўнага аддзела. Быў такі палкоўнік КДБ Пракоп Емяльянаў, мой аднакласнік. Ён гаварыў, што мяне тады моцна выручыў. Расказаў пра мяне. Потым у ЦК так і выклалі: вы можаце пра сябе не расказваць, нам пра вас усё вядома з самага дзяцінства. Емяльянаў мне памог. Яго ўжо няма, памёр…

Гадоў сем назад я напісаў кніжку — "За калючым дротам". Пра свой лёс, пачынаючы з арышта. У кніжцы дзве аповесці. Адна называецца "Яжовыя рукавіцы" — гэта пра турму, другая — "Паўночнае пекла". Выйшла ў 1993 годзе…

Цяжка мне пра гэта расказваць. У адной кніжцы расказаў, у другой… Але другую цяпер не выдаюць, колькі ні б’юся… Там пра тое, як я жыў на свабодзе пасля вызвалення з канцлагера. Пад страхам

увесь час. Усе свае пакуты паслялагерныя апісаў. Але выдаць яе грошай у дзяржавы няма... Няма на нас, былых вязняў ГУЛАГу, у дзяржавы грошай...

---

[1] **СУБАЧ Ян** [Іван Сямёнавіч; 1912, в. Субачы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. — 27.11.1937, Ленінград, турма НКВД], паэт. З польскай сялянскай сям'і. Скончыў СШ (1930), вучыўся на філалагічным ф-це Ленінградскага педагагічнага інстытута імя А.Герцэна. Арыштаваны 3.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Жалябава, д. 27, пак. 152 (інтэрнат). Асуджаны 22.11.1937 тройкай НКВД за "шпіянаж" да ВМП. Расстраляны.

[2] **БАРЫСЕНКА Васіль Васілевіч** [12(25).4.1904, Барысаў Мінскай губ. — 26.7.1984, Мінск], педагог, крытык, у 1930-я г. аўтар такіх "знакавых" артыкулаў, як "Нацдэмаўская літаратуразнаўчая метадалогія М.Гарэцкага", "Вораг пад маскай крытыка" і інш. Скончыў Барысаўскі педагагічны тэхнікум (1924), БДУ (1932). Да пачатку 2-й сусветнай вайны супрацоўнік, з 1937 дырэктар Інстытута мовы і літаратуры АН БССР. З 1941 у Чырвонай арміі. У 1946—74 дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР. Пахаваны на Усходніх могілках.

[3] **САПУН Рыгор Макаравіч** [псеўданімы: Папараць Р.; Папараць Рыгор; 1902, в. Шэлегі Ігуменскага пав. Мінскай губ. — 1948], паэт. З бел. сялянскай сям'і. З 1921 вучыўся на рабфаку БДУ. Пасля яго заканчэння студэнт Ленінградскага ўн-та. Арганізаваў Ленінградскую філію "Маладняка". Пасля выключэння з апошняга курса "за крамольныя вершы, якія ганяць партыю і савецкі ўрад", працаваў у "Белгоскино", выкладаў у школе. Арыштаваны ў 1927. Пасля 6 месяцаў допытаў вызвалены. Выкладаў у школе ў в. Красналукі, цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. Падчас 2-й сусветнай вайны — ў партызанах.